# ПАГОНЯ

Чацвер
4 траўня 2000 г.
№ 15 (462)
Кошт 70 рублёў


## Міліцыянт-забойца

**Трагічная гібель 19-гадовай дзяўчыны ўскалануля шчучынцаў напярэдадні праваслаўнага Вялікадня. Машынай, якая збіла дзяўчыну, кіраваў супрацоўнік міліцыі. Гэта ўжо не першы выпадак у Шчучыне, калі людзі гінуць у аўтаавaрыях па віне супрацоўнікаў праваахоўных органаў.**

Каля дзвюх гадзін ночы з пятніцы на суботу чатыры дзяўчыны - сярод іх і загінуўшая Алена Малашэнка - ішлі з дыскатэкі дахаты. Ззаду, на вялікай хуткасці, на іх наехала машына. Дзве дзяўчыны з пераломамі і ўдарамі трапілі ў шпіталь. Алену выратаваць не ўдалося.

Паводле расповеду хлопца, відавочцаў аварыі, Алена першая заўважыла машыну, якая неслася на іх. Спіхнуўшы сваю сяброўку на тратуар, яна сама трапіла пад колы. Некалькі метраў машына цягнула цела дзяўчыны па асфальту. Яе сяброўкі дагэтуль у шоку ад убачанага.

Алену пахавалі ў панядзелак. Сябры і знаёмыя з вянкамі і кветкамі прыйшлі пабачыць яе апошні раз.

Шчучынская пракуратура распачала крымінальную справу. У аўторак дзеля правядзення аб'ектыўнага расследавання справа была перададзеная ў Мастоўскую пракуратуру. Іншыя факты здарэння чытайце ў наступным нумары ПАГОНІ.

**Алеся Сідлярэвіч**

## А Чарнобыльцы ў пікет не сталі

**26 красавіка ў Гродне каля Галоўпаштамту адбылося пікетаванне. Такім чынам гарадская «вертыкаль» задаволіла заявы грамадзянаў Ірыны Салей і Міколы Ворана адзначыць чарговыя чарнобыльскія ўгодкі.**

Гэты факт стаўся тэмай гарачай спрэчкі паміж удзельнікамі пікету і міліцыянтамі. Апошнія ўважліва спісалі ў блакнот тэкст на плакаце: «Абаронім Беларусь ад чарнобыльскай бяды, лукашысцкага рэжыму і расійскай акупацыі!». Прадстаўнікі праваапарадку не адмовіліся ад прапанаваных улётак «Незалежнасць - гэта экалагічная бяспека!» і «Чарнобыль».

Аналагічны пікет прайшоў у мікраёне Фарты.

Усяго на Гарадзеншчыне пацярпелі ад радыеактыўнай навалы 150 паселішчаў з насельніцтвам 28 тысяч чалавек. У вобласць з заражанай зоны перасялілася 4900 сем'яў, альбо 16 тысяч грамадзянаў. У абласным цэнтры для перасяленцаў пабудавана некалькі шматпавярховых дамоў.

Але не было яшчэ выпадку, каб пацярпелыя ад Чарнобыльскай катастрофы людзі выйшлі патрабаваць свае адабраныя Лукашэнкам ільготы ці падтрымаць пікетоўцаў, якія найперш змагаюцца за іх правы да інтарэсы. Відаць, няблага жывецца ў Гродне тым перасяленцам...

**Антон Лабовіч**

## Лідскі піўзавод - спонсар зборнай!

Падчас паказу Расейскім тэлебачаннем рэпартажаў з Чэмпіяната Свету па хакею, які праходзіць зараз у Санкт-Пецярбурзе, на экране раз-пораз з'яўляліся цітры: «Лідскі піўзавод выступіў Генеральным спонсарам зборнай Беларусі па хакеі». ПАГОНЯ паспрабавала высветліць падрабязнасці мецэнацтва лідскіх піваварaў. На наш тэлефонны званок адказныя асобы завода распавялі, што гэта камерцыйная тайна. Як жа гэтая засакрэчаная інфармацыя трапіла да расейскіх тэлевізіёншчыкаў, якія распаўсюдзілі яе на ўвесь Стары і Новы свет? Раім дырэктару піўзавода спадару Юфа пашукаць у сваім асяроддзі шпіёнаў.

**Ул.інф.**




**5,6 траўня** - пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер паўночна-ўсходні. Тэмпература паветра 5 траўня - уначы +3...+8, удзень +14...+19; 6 траўня - уначы +3...+8, удзень +16...+21.

# Разгул дэмакратыі ў Гродне: затрымана 5 жуэрналістаў



Міліцыянты «запрашаюць» журналістаў у пастарунак

**Другога траўня ў 14.00 у Гродне на плошчы Леніна, перад будынкам гарадскога выканаўчага камітэта было затрымана пяцёра журналістаў з газеты «Рэпарцёр». Затрыманне праводзілася нарадам міліцыі Ленінскага РАУС.**

Справа ў тым, што ў Гродне ўтварылася незалежнае выданне - газета «Рэпарцёр» (гл. мінулы нумар ПАГОНІ - «Рэпарцёр» з пятлёй на шыі»). Для рэгістрацыі газеты неабходна «паперка» з гарвыканкама. А старшыня гарвыканкама Пашкевіч такой паперкі на дае. Таму журналісты пайшлі на адчайны крок - пад кіраўніцтвам галоўнага рэдактара газеты «Рэпарцёр» Анджэя Пісальніка, абвязаўшыся вяроўкамі, заклеіўшы сабе раты, яны выйшлі да будынка гарадзенскага гарвыканкама ў 13.30 і сталі каля помніка натхняльніку газеты «Іскра» У.Леніну.

На майках журналістаў было напісана: «Власть меня не любит, за что?»; «Каждому мэру по конституции»; «Если вам известны факты злоупотребления властью или факты коррупции чиновников горисполкома, звоните «Репортёру» по тел.44-61-22»; «Хочу дружить с мэром, а он со мной нет».

Падчас акцыі вакол пратэстуючых сабралася каля 40 чалавек. Аднак большасць гарадзенцаў інэртна дэфілiравала міма. Жанчына сярэдняе гадоў, прачытаўшы надпісы на майках, прамовіла «І каму гэты цырк трэба» і прайшла сабе па сваіх справах. Двое вайскоўцаў наблізіліся было, але прачытаўшы надпісы, са словамі «пайшлі адсюль, хутка міліцыя наедзе» зніклі.

40 хвілін супрацоўнікі міліцыі хадзілі каля журналістаў і пасля, вывучыўшы ўсе надпісы на майках, вырашылі іх затрымаць. Пры гэтым лейтэнант Ленінскага РАУС Аляксандр Біцук матываваў затрыманне тым, што «журналісты сталі тут і выказваюць сваё меркаванне. А перад гарвыканкамам выказваць сваё меркаванне забаронена». Арыштаваных пасадзілі ў аўтамабіль РАФ і павязлі ў Ленінскі РАУС. Там пяцёра мяцежных журналістаў правялі тры гадзіны. Пратакол затрымання не складаўся.

Пасля размовы з начальнікам РАУС Станіславам Васілеўскім журналістаў адпусцілі. Паводле словаў рэдактара «Рэпарцёра» Анджэя Пісальніка, «мэты нашай акцыі дасягнутыя - гарвыканкам урэшце зразумеў, што адбываецца».

Ці гэта сапраўды так - хутка пакажа час. ПАГОНЯ будзе ўважліва адсочваць развіццё падзеяў і знаёміць з імі сваіх чытачоў.

**Алена Сіневіч**

# Шматдзетныя маці абвяшчаюць галадоўку

**15 траўня гэтага года ў Гродне збіраюцца аб'явіць галадоўку каля 20 шматдзетных маці. Пайсці на адчайны крок іх вымушае гарвыканкам у асобе старшыні Анатоля Пашкевіча і яго намесніка Сяргея Анішчыка. Гэтыя кіраўнікі пісьмова папярэджаныя пра маючую адбыцца акцыю пратэсту.**

Сутнасць праблемы заключаецца ў тым, што грамадская арганізацыя «Крыніца міласэрнасці» атрымала з боку ўладаў адмову ў атрыманні юрыдычнага адрасу. Кіраўніца гэтай арганізацыі Марына Самаіл, маці пяцёх непаўнолетніх дзяцей, а раней сама выхаванка дзіцячага дома, паведаміла, што актывістам абрыдла абіваць парог гарадскога выканкама, каб атрымаць абяцаны адміністрацыяй пакойчык па вуліцы Леніна.

Той жа Сяргей Анішчык у мінулы чацвер цынічна зазначыў, што памяшканне будзе аддадзена багатым новым беларусам, якія капітальна адрамантуюць яго. Дарэчы, Сяргей Анатольевіч неаднаразова запэўніваў жанчынаў, што атрыманне імі офіса - справа некалькіх дзён, неўзабаве будзе пастаўлена апошняя кропка. Але, як бачым, справы кардынальна разышліся са словамі. Вось як кан'юнктурна паводзіць сябе дзяржаўны чыноўнік. Старшыня гарвыканкама Анатоль Пашкевіч праз сваю сакратарку наогул адмовіўся ад сустрэчы з Марынай Самаіл.

Грамадская жаночая арганізацыя «Крыніца міласэрнасці» была зарэгістравана гарадзенскімі органамі юстыцыі 13 сакавіка 2000 года, налічвае амаль 30 шматдзетных маці, маці-адзіночак, а таксама маці, якія выхоўваюць дзяцей-інвалідаў. Жанчыны аб'ядналі высілкі для супольнай абароны сваіх правоў і законных інтарэсаў малазабяспечаных і шматдзетных сем'яў, здароўя дзяцей.

**Уладзімір Кавалёў**

## На першамайскім мітынгу ў Гродне прадавалі кілбасу. Аднак кошт яе быў не па кішэні працоўным

**На плошчу Леніна былі сагнаныя рабочыя прадпрыемстваў, ПТВ-эшнікі, школяры й студэнты. Пад пагрозамі кепскіх адзнакаў, звальненьня, пазбаўленьня прэміяў, стыпендыяў і г.д. людзі мусілі зранку ісьці на мітынг і несьці плякаты з Лукашэнкам і Машэравым, а таксама сярпаста-малаткастыя чырвоныя сьцягі.**

З трыбуны прамаўлялі «першыя асобы» - ды толькі наўрад ці нехта слухаў. З большага людзі праклiналі сябе за тое, што «ня плюнулі на гэты цырк і не паехалі на лецішчы». Адныя (мабыць, бэпэсэмаўцы) мужна трымаліся за транспаранты «Беларусь - с молодым президентом!» і «Мир! Труд! Май!»

На плошчы разгарнулі гандаль кілбасамі ды іншымі прысмакамі. Толькі чэргаў не было - скуль у «працоўных» грошы?

**Алеся Тарашкевіч**

## «Прафілактыка» паводле капітана Вялічкі

**Першага траўня супрацоўнікамі гарадзенскай міліцыі былі затрыманыя 14 актывістаў Маладога Фронту, якія накіроўваліся на плошчу Леніна, да месца правядзення першамайскага мітынгу.**

Маладыя людзі ішлі па вуліцы Гарадніччанскай, калі дарогу ім перакрылі восем міліцыянтаў.

- Это что за неорганизованная группа направляется к месту митинга? - крыкнуў капітан Вялічка, які кіраваў «акцыяй». - А что у вас в сумках? - міліцыянт рэзка выхапіў пакет з рук аднаго хлопца.

- А, флаг! Пройдёмте-ка, ребята!

Без усялякіх тлумачэнняў хлопцаў і дзяўчатаў завялі ў пастарунак, дзе аглядзелі асабістыя рэчы - заплечнікі, пакеты. У Валерыя Кісяля канфіскавалі бел-чырвона-белы сцяг. Інспектар Бозік назваў яго ў пратаколе: «...флаг (бело-красно-белый) неустановленного образца».

Пасля з маладафронтаўцамі была праведзена «прафілактычная размова», падчас якой моладзі далі зразумець, што «быў загад патрымаць вас тут з гадзінку». А яшчэ высветлілася, што сябраў МФ затрымалі «с целью профилактики» (гэта, напэўна, у адміністратыўным Кодэксе новы артыкул з'явіўся - «Прафілактыка»).

Сярод затрыманых апынулася дзяўчына з беларускай дыяспары ў Маскве. Міліцыянты былі ў шоку: «А што, і там па-беларуску гавораць»?!!

Адразу пасля таго, як мітынг на плошчы Леніна скончыўся, усіх затрыманых адпусцілі.

**Юлія Дарашкевіч**



# Беларускі шлях не вычэрпваецца «Чарнобыльскім Шляхам»

**Рэжым гэтай вясною маральна прайграў двойчы. Спачатку - калі 25 сакавіка, у Дзень Волі, хамскім чынам скарыстаў супраць маніфестантаў і журналістаў у Менску паліцэйскую сілу. Другі раз улады селі ў лужыну, калі пасля першапачатковай забароны на правядзенне 26 красавіка «Чарнобыльскага Шляху» усё ж падаліся назад і цераз зубы далі згоду на акцыю (хай сабе і ў скарочаным, кампрамісным фармаце).**

І шэсце, якое сабрала, паводле вельмі розных ацэнак міліцыі і апазіцыі, ад 8 да 40 тысяч удзельнікаў, у любым выпадку выглядала даволі ўнушальна. Асабліва калі ўлічваць ступень палітычнай інэртнасці масаў і ўсялякія маніпуляцыі ўладаў з мэтай адпудзіць народ ад акцыі - ажно да жорсткіх папярэджанняў па радыё перад самым зборам на плошчы Якуба Коласа.

Такім чынам, «гарачая вясна» завяршаецца, па вялікаму рахунку, на карысць праціўнікаў Лукашэнкі. Пытанне ў тым, наколькі скарыстаюцца плёнам поспеху вулічных акцыяў «дамаролая» апазіцыя і знешнія сілы, што вымушаюць рэжым паслябляць гайкі.

А.Лукашэнка ў гадавіну трагедыі дэманстратыўна паехаў у пацярпелыя раёны - Нараўлянскі і Брагінскі. Ішла «раздача сланоў» - трактароў для калгасаў і абяцанняў для ўсіх закладнікаў Чарнобыля.

Афіцыйная прапаганда, як лёгка было прадбачыць, выкарыстала пры гэтым выпрабаваную антытэзу. У той час, маўляў, калі апазіцыя наладжвае свае палітычныя ігрышчы на чыстым сталічным асфальце, прэзідэнт вырашае канкрэтныя праблемы ў забруджаных радыяцыяй раёнах.

Фактычна ж паездка была пакахухай у савецкім стылі.

Па-першае, яшчэ пытанне, ці трэба на тых трактарах араць заражаную нуклідамі зямлю, каб вырошчваць потым сумніўныя па ступені бяспекі прадукты.

Па-другое, якраз напярэдадні ў Менску прайшлі парламенцкія слуханні па чарнобыльскіх справах. І яны высветлілі сітуацыю, якая мала нагадвае прапагандысцкую карціну айчыннага клопату дзяржавы пра пацярпелыя тэрыторыі і людзей.

Гэта толькі Заходу афіцыйны Менск тыцкае ў вочы шалёнай лічбай: маўляў, на ліквідацыю наступстваў расходуем ажно чвэрць бюджэту! А вось на слуханнях у парламенце намеснік міністра фінансаў Іван Заяш прызнаў, што чарнобыльскія выдаткі штогод скарачаюцца, як шчыргынавая скура. І, паводле яго слоўных, «складаюць сёння ў кансалідаваным бюджэце 5 працэнтаў, у рэспубліканскім - 8,3 працэнта ці 1,6 працэнта ад валавога ўнутранага прадукта».

Да таго ж, як высветлілася, і ў гэтых сціплых межах чарнобыльскія праграмы фінансуюцца цераз пень-калоду. Як заявіў у парламенце кіраўнік Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на ЧАЭС Іван Кенік, «у гэтым годзе Чарнобыльскія мерапрыемствы прафінансаваны толькі на 17,8 працэнта. З іх мэтавыя мерапрыемствы - толькі на 7,3 працэнта; выплаты па закону аб сацыяльнай абароне грамадзянаў, пацярпелых ад катастрофы на ЧАЭС, - на 21 працэнт».

А кіраўнік дзяржавы тым часам робіць шырокія жэсты перад наіўнымі жыхарамі радыяцыйнай глыбінкі...

Але на мітынгу, якім завяршыўся «Чарнобыльскі Шлях-2000», гучалі не пададзеныя вышэй лічбы, якія красамоўна сведчылі, наколькі двудушная і неэфектыўная сённяшняя ўлада, а эмацыйныя выпады супраць «гэтага злачыннага рэжыму».

Ну добра, прамова на мітынгу - жанр спецыфічны, тут важныя з'едлівасць, уменне распаліць публіку... Аднак, між тым веснавы сезон вулічных акцыяў практычна завершаны. Што далей? Якім чынам апазіцыя думае перацягнуць на свой бок той электарат, што не ходзіць на мітынгі, а спраўна глядзіць БТ?

За эйфарыяй тактычнай маральнай перамогі ў вулічным супрацьстаянні (дух якой панаваў і на прэс-канферэнцыі ў штаб-кватэры БНФ назаўтра пасля «Чарнобыльскага Шляху») пакуль зусім не бачныя нейкія дакладныя, перакаНаўчыя стратэгічныя планы апазіцыянераў напярэдадні парламенцкіх, а там - не паспееш азірнуцца - і прэзідэнцкіх выбараў.

Аляксандр Лукашэнка, трэба прызнаць, быў недалёкі ад ісціны, калі, знаходзячыся ў «зоне», пахмурна іранізаваў у тым духу, што рэпертуар мітынгоўцаў даўно нагнаў аскому. Маўляў, ізноў жа будуць крычаць сёння: «У Эўропу - без Лукі!».

І што характэрна: лозунг жа, у прынцыпе, добры! Але як яго рэалізаваць, апазіцыя, відаць, не ведае, пакуль, і сама.

**Аляксандр Класкоўскі**

# РНЕ злавілі за руку! Ці стане гэта падставай для таго, каб улады, нарэшце навялі парадак у Гродне?

**У ноч з 28 на 29 красавіка адбыўся чарговы разбойны напад на штабкватэру Гарадзенскай гарадской рады БНФ «Адраджэньне». Гэтым разам дзеянні злачынцаў былі найбольш дзёрзкімі. Яны спрабавалі вырваць са сцяны і знішчыць шыльду БНФ «Адраджэньне», разбілі шэсць шыбаў у вокнах, камянямі пашкодзілі факсімільны апарат. Злачынства было здзейснена, як заўжды, пад раніцу. Аднак гэтым разам адыйсці беспакарана зламыснікам не ўдалося. Дзякуючы пільнасці жыхароў суседніх дамоў і аператыўнасці супрацоўнікаў міліцыі, вандалы былі затрыманыя на месцы злачынства. Як стала вядома, яны з'яўляюцца членамі фашыстоўскай арганізацыі «Русское национальное единство» (РНЕ).**

Нагадаем, што разбойныя начныя напады на офіс БНФ, як правіла, былі звязаныя з палітычнымі акцыямі, якія ладзіў Фронт разам з іншымі дэмакратычнымі сіламі ў Менску ці Гродне. У ноч з 15 на 16 сакавіка (пасля Марша Свабоды-2 у Менску) разбіта восем шыбаў, міліцэйскі патруль не адрэагаваў на зварот жанчыны пра факт правапарушэння; у ноч з 24 на 25 сакавіка (напярэдадні Дня Волі) толькі дзяжурства маладафронтаўцаў прадухіліла чарговы напад; у ноч з 11 на 12 красавіка (падчас галадоўкі пратэсту ў турме старшыні Рады БНФ Сяргея Мальчыка) скрадзены фронтаўскі сцяг і пашкоджана шыльда. За апошнія два месяцы былі яшчэ два выпадкі разбіцця шыбаў, па якіх Рада не звярталася з заявамі ў міліцыю.

Трэба адзначыць, што неаднаразовыя звароты ў міліцыю з патрабаваннямі навесці ў горадзе парадак былі безвыніковыя. Ад начальніка Ленінскага РАУС Станіслава Васілеўскага прыходзіў адзін і той жа, як пад капірку, адказ: «...по Вашему заявлению проведена проверка. В возбуждении уголовного дела отказано за отсутствием состава преступления». Больш таго. Пасля падачы заявы аб пашкоджанні шыльды на вонкавай сцяне і крадзяжы сцяга, замацаванага на сцяне на ўзроўні другога паверху, ад спадара Васілеўскага прыйшло папярэджанне, што здзейсненню правапарушэнняў у дачыненні маёмасці БНФ спрыяюць адсутнасць на вокнах кратаў і ахоўнай сігналізацыі. «В случае непринятия мер (по устранению вышеуказанных недостатков) Вы будете привлечены к ответственности согласно действующего законодательства».

Вось так усё проста: у тым, што супраць БНФ - арганізацыі, якая абараняе інтарэсы беларускага насельніцтва Беларусі - вядзецца мэтанакіраваная злачынная дзейнасць з боку расейскіх фашыстаў, вінаваты сам БНФ. Людзей, якія выходзяць бараніць незалежнасць краіны, збіваюць, штрафуюць і садзяць у турмы, а члены фашыстоўскай арганізацыі спакойна ладзяць кожны тыдзень пікеты ў цэнтры горада, распаўсюджваюць фашыстоўскую літаратуру.

Будзем спадзявацца, што прыведзеныя факты прымусяць, нарэшце, гарадзенскія ўлады і праваахоўныя структуры заняць прынцыповую пазіцыю па недапушчэнні далейшай дзейнасці прафашысцкай арганізацыі РНЕ ў нашым горадзе.

**Сяргей Мальчык**

# Без «хапуна» не абышлося



Сталі вядомыя некаторыя падрабязнасці Чарнобыльскага Шляху-2000, што праходзіў у Менску і на які 26 красавіка апазіцыя здолела вывесці каля 30 тысячаў чалавек. Праз некаторы час пасьля пачатку руху калёны з пляцу Якуба Коласа, тыя людзі, якія знаходзіліся ў хвасьце, былі зьбітыя спэцназаўцамі. Некалькі чалавек міліцыя затрымала. Паводле сьведчаньняў удзельнікаў падзеяў, былі затрыманыя двое непаўналетніх: Андрэй Ануфрыеў (17 гадоў, жыхар г.Горкі. Падчас затрыманьня хлопца зьбілі, забралі сьцяг і фотаапарат. Пасьля затрыманьня Андрэя адпусьцілі) і Аляксандар Атрошчанкаў, якому таксама няма 18-ці гадоў. У адной машыне з Атрошчанкам везьлі затрыманых Зьміцера Жураўчанку, Андрэя Сацуту (адпаведна сьведчаньням Атрошчанкі, на шляху ў міліцэйскі пастарунак усіх іх зьбівалі). На пляцы быў затрыманы старшыня суполкі КХП з Чашнікаў Андрэй Мычык.

Падчас шэсьця праваакцыйна паводзіла сябе міліцыя. З аднаго боку, на вуліцах сталіцы было паказальна мала супрацоўнікаў праваахоўных ворганаў, дзе-ніздзе сталі аўтобусы з АМАПам. З іншага пункту гледжаньня, міліцыянты наўмысна правакавалі незадаволенасьць дэманстрантаў. На прашпэкце ня быў перакрыты рух, і машыны, што рухаліся з Акадэміі Навук у бок пляцу Перамогі, фактычна ўпіраліся ў шчыльныя шэрагі дэманстрантаў. Міліцыянты спынялі аўтамабілі, якія спрабавалі разьвярнуцца і паехаць назад, і загадвалі кіроўцам рухацца наперад, даводзячы, што скрайняя правая паласа ёсьць толькі для руху транспарту. Адзін капітан з рацыяй падыйшоў да тралейбуса, што стаяў і чакаў, пакуль пройдзе шэсьце, і загадаў кіроўцу ехаць напўрост на натоўп. «Если не будут расходиться - дави», - была рэпліка з вуснаў афіцэра. Міліцэйскі «опэль» некалькі разоў наўмысна праразаў калёну, выклікаючы вострае незадавальненьне дэманстрантаў.

Пасьля заканчэньня мітынгу былі арыштаваныя два мікрааўтобусы з тэхнікай, транспарантамі і людзьмі. Іх пад канвоем даставілі ў Савецкі РАУС, дзе адзін з гэтых мікрааўтобусаў быў адпушчаны. Людзей з другога аўтобуса вызвалілі, а сам аўтобус альбо тое, што ў ім знаходзілася, міліцыянты пагражалі канфіскаваць. У 23.30 міліцэйскае начальства было вымушанае даць загад вызваліць затрыманых людзей і вярнуць аўтобус з тэхнікай.

**На здымку: 26 красавіка на «Чарнобыльскі Шлях» у Менску ішлі поруч і вядомыя палітыкі накшталт Міколы Статкевіча (у цэнтры), і тыя, хто толькі-толькі ўваходзіць у жыццё**

# Чэхія бароніцца візамі

Па рашэнню ўрада Чэшскай Рэспублікі 28 красавіка дэнансавана пагадненне аб бязвізавых паездках грамадзян Чэшскай Рэспублікі і Рэспублікі Беларусь ад 12 сакавіка 1996 года. Пра гэта паведаміў часовы паверанй у справах Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Алеш Фойцік. Адначасова дэнансаваныя аналагічныя дагаворы з Расійскай Федэрацыяй і Украінай. Такім чынам, ужо 29 траўня для беларускіх грамадзян на чэшскай мяжы пачне ў поўнай меры дзейнічаць новы візавы рэжым, які прадугледжвае спыненне бязвізавых турыстычных паездак. Перасячэнне чэшскіх межаў будзе ажыццяўляцца згодна з умовамі закона «Аб знаходжанні іншаземцаў на тэрыторыі Чэшскай Рэспублікі». Кошт аднаразовай візы на тэрмін да 90 дзён складзе 21 даляр ЗША. Дзецям да 15 гадоў віза будзе выдавацца бясплатна. Да 29 траўня паміж Чэхіяй і Беларуссю будзе дзейнічаць стандартны візавы рэжым. Пры гэтым на кароткатэрміновыя паездкі тэрмінам да 30 дзён віза не патрабуецца. На ўсе астатнія паездкі афармляюцца візы.

Афармленнем віз для беларускіх грамадзян будзе займацца консульскі аддзел амбасады Чэшскай Рэспублікі ў Беларусі. У парадку выключэння амбасадзе прадастаўлена права працаваць не толькі з фізічнымі, але і з юрыдычнымі асобамі, што дазволіць спрасціць вырашэнне пытання пры групавых заяўках на выдачу выдачу віз для турыстычных арганізацый, якія маюць з амбасадай адпаведную папярэднюю дамоўленасць. Для ўдакладнення ўмоваў супрацоўніцтва з такімі арганізацыямі амбасада 3 траўня а 16-й гадзіне запрашае прадстаўнікоў зацікаўленых турфірмаў на сустрэчу. Запісацца на сустрэчу неабходна папярэдне па тэлефоне 226-52-43.

**Ірына Сазановіч**

# Хочуць выбіраць і быць абранымі!

**У Гродне распачалася праца па стварэнню Каардынацыйнага савета грамадскіх аб'яднанняў горада і вобласці, задачай якога з'яўляецца забеспячэнне ўмоваў для правядзення свабодных і дэмакратычных выбараў.**

Ініцыятарамі стварэння савета выступілі Гарадзенскае аддзяленне Беларускай арганізацыі працоўных жанчын, свабодныя прафсаюзы горада і вобласці, Гарадзенскія прадпрымальнікі, гарадскі і абласны цэнтры абароны правоў спажыўцоў, арганізацыя мнагадзетных маці і малазабяспечаных сем'яў «Крыніца міласэрнасці» ды іншыя арганізацыі. Паводле папярэдніх ацэнак, Каардынацыйны савет аб'ядноўвае больш за тысячу чалавек. Ініцыятыўную групу ўзначаліў кіраўнік Гарадзенскага абласнога цэнтра абароны правоў спажыўцоў Уладзімір Совца.

У рамках Каардынацыйнага савета плануецца стварэнне цэнтра па назіранню за парламенцкімі і прэзідэнцкімі выбарамі. Акрамя таго, плануецца правесці серыю семінараў па падрыхтоўцы назіральнікаў за выбарамі ў Гродне і Гарадзенскай вобласці. Абсталяванне і расходныя матэрыялы для працы ініцыятыўнай групы прадастаўлены прафсаюзам прадпрымальнікаў Гарадзенскага рынку «Паўднёвы».

**Дзмітрый Уласаў**

# Як Наталлю «вучылі жыць» педагогі з Кастрычніцкай міліцыі

Калі я глядзеў на гэтую далікатную маленькую жанчыну, якая і ў сорак гадоў не змяніла свайго шчырага і наіўнага стаўлення да жыцця і людзей, то думаў, што менавіта на такіх, як яна, трымаецца нашае грамадства, і ўсе мы яшчэ канчаткова не ашалелі ад глупства і хамства, што апанавалі нашую адну, асобна ўзятую краіну. Да такіх, як яна, хочацца заляцацца пад музыку Вівальдзі пад ліпеньскімі зоркамі, дарыць чароўныя кветкі...

Наталля Сазанавец паказвае на руках і нагах вялізныя сінякі ўсіх колераў вясёлкі. У пятніцу, 14 красавіка, прыкладна ў адзінаццаць гадзін вечара, яе, галоўную бухгалтарку, маці дваіх дзяцей, чалавека, які пераходзіць вуліцу толькі на зялёнае святло і на пешаходным пераходзе, кідае смецце толькі ў сметніцу і робіць заўвагі брыдкасловам, збілі міліцыянты пры затрыманні «за распіццё спіртных напояў у грамадскім месцы, нецэнзурную лаянку, пагрозы і супраціў работнікам міліцыі». Усю ноч яна прасядзела, прыкаваная кайданкамі да лавы ў дзяжурнай часці Кастрычніцкага РАУС. А дзесятай гадзіне наступнага дня яе павялі ў суд разам з алкашамі, дробнымі хуліганамі і сямейнымі скандалістамі. Але суддзя адмовіўся разглядаць яе адміністратыўную справу, проста глянуў на яе і - адмовіўся. У панядзелак яна падала скаргу ў пракуратуру - яна не можа, выходзячы з досведу свайго папярэдняга жыцця, дагэтуль усвядоміць і асэнсаваць усё, што з ёю адбылося. Пры ўспамінах пра жудасную ноч, праведзеную ў міліцыі, яе пачынае калаціць, словы блытаюцца ў галаве і пачынае балець збітае цела.

У тую нядобрай памяці пятніцу яна зайшла да сяброўкі, якая працуе ў бары на аўтобусным вакзале. Выпілі па шклянцы піва і па кілішку гарэлкі пасля закрыцця бара. Сяброўка пачала рыхтавацца да закрыцця, а Наталля збіралася дахаты. Раптам на парозе з'явіўся - прыйшоў папіць піўка - яе стары знаёмы Алег К. Яны доўга не бачыліся і, каб паразмаўляць, прыселі на лаўку. З Алегам быў ягоны знаёмы Мікалай.

- Быў нейкі лірычны настрой. Мы размаўлялі пра бардаў і мастацтва, елі яблыкі і цукеркі. Пачынаўся дождж, і мы вырашылі разыходзіцца, - распавядае Наталля. - І тут з цемры, як пацукі з нары, перад намі з'явіліся міліцыянты: «Вашы дакументы».

«А што здарылася?» - запыталася Наталля. «Вы выпіўшая», - заявілі міліцыянты. «Я выпіла ў бары, у нас што - сухі закон, альбо я непаўналетняя?» На гэтае справядлівае пытанне міліцыянты не адказалі, затое выклікалі машыну. Паколькі ёй так і не растлумачылі прычыну затрымання, садзіцца ў «бобік» яна не пагадзілася.



Наталля Сазанавец з пляменніцай Волечкай

- Мяне схапілі за ногі і галавой наперад укінулі праз заднія дзверцы ў машыну. Падчас гэтага мяне некалькі разоў «перацягнулі» дубінкай... Побач пасадзілі Алега і Мікалая, і праз тры хвіліны мы былі ў дзяжурцы Кастрычніцкага РАУС.

У міліцыі яна крыху супакоілася і адышла ад болевага шоку. З хлопцамі дзяжурны разабраўся хутка і неўзабаве выпусціў на волю. «За што мяне затрымалі?» - зноў пачала цікавіцца Наталля. Але ёй нічога не тлумачылі, а пасадзілі ў машыну і павезлі ў наркалагічны дыспансер на асведчанне. Пасадзілі насупраць нарколага - той нешта напісаў, і міліцыянты павялі Наталлю назад у машыну.

І тут ёй стала страшна, жахліва, жудасна. Яна ўявіла, што яе вязуць у выцвярэзнік, распрануць і невядома што яшчэ робяць - пасля папярэдняга збіцця яна магла так думаць. Яна ўкленчыла, стала прасіць адпусціць яе дадому, а потым страціла прытомнасць...

Апрытомнела ў знаёмай дзяжурцы з кайданкамі, зачэпленымі за ручку стула. Папрасіла патэлефанаваць родным, калі заўважыла, што язык і вусны ёй дрэнна падпарадкоўваюцца. У хаце чакала непаўналетняя дачка, але нікому тэлефанаваць ёй не дазволілі. Гадзіннік паказваў 23.38.

Да яе падышоў нейкі лейтэнант, завёў на трэці паверх у пакой з ложкам, пачаставаў гарбатай. Лейтэнант хацеў даведацца, каго яна «знает». Потым зноў сядзела на лаве, прыкаваная кайданкамі. Нейкія менты, праходзячы побач, хапалі яе за нос і рагаталі. Адзін даў па шыі. Яна, як заведзеная, прасіла: «Адпусціце мяне дахаты, у мяне непаўналетняя дачка». Каля чатырох гадзін прыйшоў нейкі здаравенны мужык у цывільнай вопратцы, прапанаваў адвезці яе дадому. Яна заявіла, што сама дабярэцца. Аднак, калі Наталля пачала ўжо выходзіць, нейкі міліцыянт схапіў яе ды ізноў прыкаваў да лавы. Так яна і прасядзела да дзесяці гадзін раніцы.

Прычыну затрымання ёй патлумачылі пазней пры складанні пратакола нумар 0121124, які склаў В.Масальскі. Але ўсю ноч самыя разнастайныя людзі ў форме наракалі ёй - маўляў, няправільна сябе паводзіш. З некаторымі сухамлінскімі яна спрабавала спрачацца, даводзіць абсурднасць яе затрымання. Педагогі ў форме прыводзілі такія аргументы, як «мы не міліцыя, мы НКВД», а адзін прадставіўся гісторыкам, які чытаў Ключэўскага і Салаўёва, і на гэтай падставе ўпікнуў Наталлю за пытанне, ці даруе ім Бог. Дыскусія з тэолагам у пагонах надоўга запомніцца Наталлі: выявілася, што міліцыянты на гэтую агульнафіласофскую праблему рэагуюць вельмі экспрэсіўна.

Цяпер прыйшоў час для журналісцкіх адступленняў. Шаноўныя міліцэйскія і пракурорскія начальнікі, мы Вас вельмі просім: разбярыцеся са справай Наталлі Сазанавец. Прыйдзіце на развод патруля і скажыце гэтым хлопцам з дубінкамі, якія не аслухоўцца Вашага загаду, скажыце ім: «Усё, больш нікога не б'ем», скажыце хаця б, што «больш не б'ем жанчын». Можа, біць прымушаў былы міністр, - дык няма таго міністра, самы час сказаць. І не толькі сказаць, але і зрабіць. А то хутка афіцэры пачнуць лупцаваць сяржантаў - мы таксама ведаем гісторыю. А потым будуць шукаць вінаватых, каб зваліць на іх віну за ўсе беззаконні - такая ўжо павялася ў нас «педагогіка».

У справе Наталлі парушэнні з боку міліцыі кідаюцца ў вочы, але мы не юрысты і цалкам давяраемся кваліфікацыі і чалавечнасці прафесіяналаў. Хацелася б, каб гэтая справа атрымала шчаслівы працяг - жаночае сэрца ўсёдаравальнае. Хацелася б, каб гэтая справа паклала пачатак гуманізацыі гарадзенскай міліцыі - ці ж не гэты лозунг вісіць над ганкам абласнога УУС?

**Сяргей Самасей**

# Юрыдычную алімпіяду выйгралі гарадзенцы

**На мінулым тыдні ў Гарадзенскім універсітэце на базе юрыдычнага факультэта прайшла алімпіяда краіны сярод студэнтаў-юрыстаў. Удзел у ёй, акрамя гаспадароў, прынялі прадстаўнікі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Беларускага недзяржаўнага інстытута правазнаўства, Полацкага ўніверсітэта, Брэсцкага і Гомельскага ўніверсітэтаў. Лепшыя веды і тэарэтычную падрыхтаванасць, а таксама здольнасць вырашаць юрыдычныя казусы прадэманстравалі нашыя землякі. Пераможцай выйшла каманда Гарадзенскага ўніверсітэта імя Я Купалы, а першае месца заняла студэнтка трэцяга курса - Вольга Гаўрылік.**

**Ул. Інф.**

# Ёсць карысць ад дэпутатаў

**Рашэнне аб стварэнні абласнога мэтавага бюджэтнага жыллёва-інвестыцыйнага фонду прынята на пасяджэнні сесіі Гарадзенскага абласнога савета дэпутатаў 28 красавіка.**

Фонд будзе фармавацца за кошт уплаты ўсімі юрыдычнымі асобамі адлічэнняў у памеры 1 працэнта выручкі ад рэалізацыі прадукцыі - работ і паслуг. Назапашаныя сродкі будуць накіроўвацца на будаўніцтва жылля. Рашэнне ўваходзіць у сілу з першага траўня.

Дэпутаты таксама падтрымалі прапанову аб наданні гарадскому пасёлку Свіслач статусу горада.

**Ася Куніцкая**

# Жыхары Гарадзеншчыны супраць яднання з Расеяй і за рынкавую эканоміку

**Па запрашэнні кіраўнікоў Каардынацыйнага камітэта «Гродзенская ініцыятыва» і абласнога грамадскага аб'яднання «Ратуша» Сямёна Домаша і Аляксандра Мілінкевіча 27 красавіка Гродна наведаў вядомы сацыёлаг, кіраўнік лабараторыі аксіяметрычных даследаванняў «Новак» Андрэй Вардамацкі.**

Навуковец азнаёміў прысутных з вынікамі апытання грамадскай думкі ў сакавіку бягучага года, надрукаваных у брашуры «Беларусь і свет». Асаблівую цікавасць выклікалі дадзеныя па Гарадзенскай вобласці. Сярод пытанняў, прапанаваных рэспандэнтам, былі і такія: «Каго можна лічыць беларусам?», «Ці лічыце Вы, што заходняя цывілізацыя варожая для праваслаўных народаў?», «Якім чынам Беларусь можа стварыць сваю бяспеку?» ды іншыя.

Напрыклад, толькі 4,1 працэнта жыхароў Гарадзеншчыны выказваюцца за ўваходжанне Беларусі ў склад Расеі. Грамадзянамі нашай краіны лічаць сябе 73 працэнты насельніцтва Гарадзеншчыны і толькі 1,5 - Расеі. Адначасовую арыентацыю на Захад і Расею падтрымліваюць 52,3 працэнта апытаных. Праект Канстытуцыі, прапанаваны А.Лукашэнкам на рэферэндуме ў 1996 годзе, чытала ўсяго 36 працэнтаў нашых землякоў. У тым, што дэмакратыя лепшая за дыктатуру, перакананыя 57,9 працэнта рэспандэнтаў. 50,8 працэнта жыхароў Гарадзеншчыны лічаць, што рынкавая эканоміка больш эфектыўная, чым планавая. 66 працэнтаў апытаных з нашай вобласці паскардзіліся, што эканамічны стан іх сем'яў за апошнія чатыры гады пагоршыўся. 48,7 працэнта вінавацяць у гэтым урад, 32,5 - прэзідэнта. Брашура «Беларусь і свет» змяшчае таксама шмат іншых цікавых звестак.

**Сцяпан Ярашчук**

# Паўдзельнічаў у мітынгу - атрымай «даляр»!

**26 красавіка на зэльвенскім гарадскім стадыёне «Колас» адбыўся санкцыянаваны мітынг, прысвечаны 14-й гадавіне Чарнобыльскай трагедыі.**

**Мясцовая «вертыкаль» дазволіла грамадзянам-заяўнікам правесці акцыю, але забараніла іх шэсце і на гадзіну скараціла працягласць мерапрыемства.**

Больш як сто чалавек хвілінай маўчання ўшанавалі памяць ліквідатараў, усіх пацярпелых ад атамнай радыяцыі. Да прысутных звярнуліся лідар мясцовай арганізацыі Маладога Фронту Сяргей Карнееў, сакратар раённай рады Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі - БНФ Анатоль Стручынскі, кіраўнік гэтай зэльвенскай арганізацыі Юрый Качук. Аднагалосна была прынята рэзалюцыя мітынга. Удзельнікі акцыі атрымалі сімвалічную адну у.а. - ксеракапіраваную паперчыну, імітаваную пад даляр. 200 «зялёных» разышліся ў імгненне вока. Кожнаму хацелася займець такі сувенір. Але не ўсім пашчасціла. Удзельнікі мітынгу выказалі сваю падтрымку старшыні Гарадзенскай гарадской рады БНФ «Адраджэнне» Сяргею Мальчыку, які быў пакараны 10-сутачным турэмным зняволеннем паводле несправядлівага прысуду.

Як засведчыў Юрый Качук, прысутныя ўпадабалі лозунгі «Не - Чарнобылю духоўнаму і акупацыйнаму!», «Улада - народу!», «Уваскрос Хрыстос - уваскрэсне і Беларусь!». Усе з задавальненнем слухалі запісы песень вядомага барда і актора гарадзенца Віктара Шалкевіча, якога вырашылі запрасіць для ўдзелу ў наступнай акцыі.

Гукаўзмацняльнік данёс кожнае слова выступоўцаў да слухачоў, якія выйшлі на балконы шматпавярховак, сабраліся каля стадыёна, але пакуль што не адважыліся далучыцца да ўдзельнікаў акцыі. Але ўсё наперадзе. Чарнобыль - гэта страшная бяда. А бяда як нішто яднае людзей. Галеча прымусіць грамадзянаў выйсці на вуліцы, каб абараніць свае правы.

**Антон Лабовіч**

# Прадпрымальнікі вучацца

**У Гродне прайшоў інфармацыйна-прававы семінар для прадпрымальнікаў і асобаў, якія працуюць па найму.**

- Адміністратыўная адказнасць за здзяйсненне адміністратыўных правапарушэнняў, парадак абскарджання адміністратыўных правапарушэнняў, правы і абавязкі асобаў, якія прыцягваюцца да адміністратыўнай адказнасці;

- крымінальная адказнасць у сферы малога бізнесу;

- маркетынг для прадпрымальнікаў - гэтыя ды іншыя тэмы і сталі прадметам абмеркавання на семінары. Семінар праводзіўся ў рамках супрацоўніцтва гарадзенскіх прадпрымальнікаў і камісіі па малых грантах Амбасады ЗША.

Алег Сідзігаеў, юрыст Беларускага Хельсінкскага камітэта, у папулярнай форме расказаў прысутным, як трэба сябе паводзіць пры затрыманнях і вобысках, якія дакументы павінны пакідаць супрацоўнікі міліцыі пры гэтым. Кожны ўдзельнік семінару атрымаў падборку вытрымак Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь, падрыхтаваную інфармацыйна-прававым цэнтрам прадпрымальнікаў.

Гарадзенскія прадпрымальнікі маюць намер правесці яшчэ некалькі семінараў па дадзенай тэматыцы. Запіс на семінары праводзіцца па тэлефоне 31-30-62. Беларускі Хельсінкскі Камітэт знаходзіцца па адрасу: г.Гродна, гатэль «Нёман», пакой 201, тэл. 44-61-43. Тут усе прадпрымальнікі могуць атрымаць кансультацыю, запісацца на семінары, сустрэцца з актывам прафсаюза. Юрыдычныя кансультацыі прадпрымальнікі могуць атрымаць таксама па адрасу: г.Гродна, вул.Тэлеграфная, 5, тэл. 72-11-73. Усе кансультацыі для сябраў прафсаюза бясплатныя.

**Ул.інф.**

# Беларусь павінна быць вольнай і незалежнай дзяржаваю!

**Зварот да беларусаў свету ў сувязі з 55-годдзем заканчэння другой сусветнай вайны**

Паважаныя суайчыннікі!

У пачатку траўня бягучага года мінае 55 гадоў са дня перамогі над фашысцкай Германіяй, а 3 верасня 2000 года споўніцца такі ж тэрмін са дня заканчэння другой сусветнай вайны наогул, якая па здзейсненых злачынствах супраць чалавецтва і матэрыяльных разбурэннях не ведае сабе роўных. Яе адрозненне ад першай сусветнай вайны, галоўнай прычынай развязвання якой з'явіліся непрымірымыя эканамічныя супярэчнасці паміж дзвюма групоўкамі супрацьстаячых дзяржаваў, заключаецца ў тым, што яна пачалася са змовы дзвюх палітычных дыктатарскіх рэжымаў, якія супернічалі між сабою за ўсталяванне сусветнага панавання бальшавізму і фашызму, узнікненне якіх было адрыжкай мінулых манархічных дыктатураў, што праіснавалі ў Расеі і Германіі аж да пачатку XX стагоддзя.

Свет, бадай, не ведае большых па сваіх памерах і цынізму злачынстваў супраць чалавецтва, чым падпісанне ў Маскве 23 жніўня 1939 года В.Молатавым і І.Рыбентропам дамовы і пратаколаў аб супрацоўніцтве і падзелу паміж двума дыктатарскімі рэжымамі сфераў уплыву ў Еўропе. Названыя дакументы і падпісы ў той дзень І.Сталіным у Крамлі бакал шампанскага за здароўе А.Гітлера, як за лідара, якога нібыта падтрымлівае нямецкі народ, былі па сутнасці бласлаўленнем адным дыктатарам іншага на развязванне другой сусветнай вайны, пачаткам якой гісторыя лічыць напад 1 верасня 1939 года фашысцкай Германіі на Польшчу. Літаральна праз некалькі дзён у гэтую вайну, амаль у якасці саюзніка агрэсара, уступіў і бальшавіцкі рэжым. Адабрэнне нападу фашысцкай Германіі на Польшчу і ўвод войскаў у заходнія вобласці Беларусі і Украіны, з якіх ужо ў першыя месяцы былі дэпартаваны ў раёны Сібіры і Казахстана тысячы ні ў чым не вінаватых людзей, правядзенне сумеснага ваеннага параду германафашыстоўскіх і савецкабальшавіцкіх войскаў у Брэсце, зверскае знішчэнне польскіх афіцэраў у Катынскім лесе пад Смаленскам, ініцыятыва па развязванню вайны з Фінляндыяй, захоп Бесарабіі, акупацыя Прыбалтыйскіх дзяржаваў - вось той няпоўны пералік злачынстваў бальшавізму, учыненых ім ў пачатку другой сусветнай вайны па змове аба ўзгадненню з фашызмам.

Недаацэньвалі як пагрозу для свету з'яўленне дзвюх экстрэмісцкіх і па сваёй сутнасці з самага пачатку варожых палітычных плыняў многія кіраўнікі і палітычныя дзеячы краінаў Заходняй Еўропы і Злучаных Штатаў Амерыкі. І гэта з'явілася адной з галоўных прычынаў мюнхенскіх уступак Гітлеру і млявага, галоўным чынам на словах, рэагавання на далейшыя злачынныя дзеянні па захопу новых тэрыторыяў абодвума дыктатарскімі рэжымамі.

І толькі з нападам гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз (ад намеру зрабіць гэта раней ці пазней Гітлер ніколі не адмаўляўся, як не адмаўляўся і Сталін устанавіць у сусвеце панаванне камуністычнага рэжыму), убачыўшы пагрозу цёмных сілаў рэакцыі над усім чалавецтвам, кіраўнікі многіх краінаў свету (перш за ўсё ЗША і Вялікабрытаніі) змаглі пераадолець палітычныя перашкоды. Яны пайшлі ў барацьбе з фашызмам на саюз з СССР, кіраўнікі якога, апынуўшыся перад смяротнай небяспекай, таксама супакоілі свае амбіцыі па ўстанаўленню камуністычных парадкаў ва ўсім свеце. Не скарыліся перад фашызмам прагрэсіўныя сілы ў акупаваных краінах, а таксама сапраўдныя патрыёты ў самой Германіі і саюзных з ёю дзяржавах.

Перамога над Германіяй і яе саюзнікамі ў гады другой сусветнай вайны пацвердзіла бясспрэчную перавагу аб'яднаных сілаў прагрэсу над сіламі рэакцыі, трыумф здаровага сэнсу над цемрашальствам.

Другая сусветная вайна прынесла чалавецтву незлічоныя страты чалавечых жыццяў, мільёны калекаў і сіротаў. Замест тысячаў гарадоў і вёсак яна пакінула пажарышчы і руіны, а там, дзе да вайны стаялі заводы і людскія сядзібы, засталіся стаяць адзінокія каміны і абпаленыя дрэвы. Беларусь выйшла з той вайны адным з найбольш пацярпелых рэгіёнаў свету. У рэспубліцы загінуў кожны чацвёрты яе жыхар. У гады вайны спалена ці зруйнавана больш як 200 гарадоў і пасёлкаў гарадскога тыпу і больш як 9000 вёсак, у выніку чаго каля трох мільёнаў людзей засталіся без даху над галавою. Сотні беларусаў былі вывезены фашыстамі ў Германію ў якасці працоўнай сілы. А яшчэ больш людзей пакінулі Беларусь па палітычных матывах у час уступлення на яе тэрыторыю Чырвонай Арміі (пазней яны знайшлі прытулак на самых розных кантынентах зямнога шару). Болей як паўмільёна жыхароў Беларусі выехалі за яе межы ў пасляваенныя гады ў сувязі з правядзеннем перасялення, звязанага са зменамі польска-беларускай мяжы. Многія беларусы былі справядліва асуджаны за здзейсненыя імі ў гады вайны злачынствы, але яшчэ болей іх па палітычных матывах зноў апынулася ў савецкіх турмах і канцлагерах Сібіры, Поўначы і Казахстана. Пры гэтым трэба падкрэсліць, што загінула, пацярпела і пакінула тэрыторыю Беларусі самая адукаваная і патрыятычна настроеная частка насельніцтва.

Юрыдычную ацэнку вынікаў другой сусветнай вайны даў Нюрнбергскі працэс, на якім былі асуджаныя не толькі ваенныя злачынцы Германіі, але і сам фашызм як палітычная сістэма і ідэалогія. Першы раз у гісторыі агрэсія была прызнана цяжкім злачынствам супраць чалавецтва. Аднак гэта не было зроблена ў дачыненні да другога дыктатарскага рэжыму. Карыстаючыся гэткай беспакаранасцю, бальшавізм змог усталяваць у пасляваенныя гады свой рэжым яшчэ ў некалькіх дзяржавах свету і стварыць так званы сусветны лагер сацыялізму, чым затрымаў развіццё многіх краінаў на цэлыя дзесяцігоддзі. І спатрэбіліся немалыя намаганні прагрэсіўнай часткі чалавецтва і працяглы час, каб бальшавізм як палітычная сістэма і ідэалогія прадэманстравалі сваю ідвадочную непрыдатнасць.

За гэтыя гады далёка наперад пайшлі ў развіцці эканомікі і дэмакратыі заходнія дзяржавы - былыя саюзнікі ў барацьбе з фашызмам, стала дэмакратычнай, цывілізаванай і высока развітай краінай і пераможаная ў другой сусветнай вайне Германія. Няма ўжо і так званага сацыялістычнага лагеру, распаўся і сам Савецкі Саюз як апора экстрэмісцкай плыні бальшавізму. Пакутліва шукаюць свой шлях развіцця незалежныя дзяржавы, якія былі створаны на яго тэрыторыі. Усё больш накірунак у бок дэмакратычнага развіцця і ўстанаўлення сувязяў з заходнім светам робіць Расейская Федэрацыя як найбольш магутная на постсавецкай прасторы дзяржава.

Аднак, як паказалі падзеі апошніх гадоў, свет яшчэ не выпрацаваў імунітэту супраць новага адраджэння былых дыктатураў. І найбольш слабаю ў гэтых адносінах часткаю еўрапейскага кантыненту апынулася Рэспубліка Беларусь. Рэцыдыў названых рэжымаў з'явіўся тут у выглядзе так званага лукашызму, які ўяўляе сабою сумесь фашызму і бальшавізму, прыпраўленую махровым папулізмам. Верхавод рэжыму адкрыта заяўляў пра тое, што яго ягоным кумірам з'яўляецца Гітлер, а яго партрэты на перыядычна праводзімых яго атачэннем шоу выносяць побач з партрэтамі Сталіна. У Беларусі пад патранажам Міністэрства ўнутраных справаў і КГБ створаны базы па падрыхтоўцы расейскіх фашыстоўскіх баявых атрадаў РНЕ.

Новае праяўленне былых дыктатарскіх рэжымаў у Беларусі не магло расквітнець гэткім буйным цветам, ад якога патыхае трупным смуродам адоленага 55 гадоў таму фашызму і пацярпелага катастрофу напрыканцы 80-ых - у пачатку 90-ых гадоў мінулага стагоддзя бальшавізму, каб яму не аказалі актыўную падтрымку былыя кіраўнікі кампартыі Беларусі і многія расейскія палітыкі шавіністычнага кшталту, і ў першую чаргу зноў-такі былыя і сённяшнія кіраўнікі КПРФ, што яшчэ раз сведчыць пра амаральнасць і злачыннасць бальшавізму як экстрэмісцкай палітычнай плыні і бесчалавечнай ідэалогіі ды неабходнасці публічнага асуджэння яго міжнародным судом, як гэта было зроблена з фашызмам на Нюрнбергскім працэсе.

Апошнім часам верхавод дыктатарскага рэжыму ў Беларусі, тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў якога скончыўся 20 ліпеня 1999 года і супраць рэжыму якога распачата крымінальная справа і вядзецца следства, зрабіў новы выпад супраць свайго народа і народаў краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Ён прапанаваў кіраўнікам Расейскай Федэрацыі стварыць на тэрыторыі Беларусі 300-тысячную ваенную групоўку, што на практыцы азначае, па сутнасці, заклік да акупацыі рэспублікі замежным войскам і стварэнне ваеннай напружанасці ў рэгіёне.

Дарагія суайчыннікі! У якой бы краіне вы не жылі - у Беларусі ці за яе межамі, усе мы павінны зразумець тую небяспеку, якая навісла над нашай Радзімай - небяспеку страты ёю незалежнасці і дзяржаўнага суверэнітэту. У той жа час мы павінны зразумець і тую простую ісціну, што лёс Беларусі можа быць вырашаны, урэшце рэшт, толькі самімі беларусамі. Нам могуць дапамагчы, але вырашаць нашыя праблемы ніхто за нас не будзе. Таму я звяртаюся да ўсіх вас, паважаныя беларусы, і заклікаю вас адкінуць усе дробныя разыходжанні паміж сабою і аб'яднацца вакол Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь як адзінага легітымнага дзяржаўнага органа на тэрыторыі Беларусі ў імя святой справы - абароны свабоды і незалежнасці нашай маці-Беларусі ды пазбаўлення яе ад дыктатарскай лукашыцкай брыдоты.

Беларусь павінна быць вольнай і незалежнай дзяржавай, як пра гэта было абвешчана Трэцяй Устаўной Граматаю 25 сакавіка 1918 года і як таго патрабуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

Жыве Беларусь!

**Сямён Шарэцкі,**
**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**




# Мемарандум «Аб мэтах Усебеларускага З'езда»

Усведамляючы адказнасць за будучыню Бацькаўшчыны, мы заяўляем пра неабходнасць абараніць дзяржаўнасць Беларусі. Дзеля гэтага склікаецца Усебеларускі З'езд 2000 года. Гэты гістарычны сход павінен мець максімальную прадстаўнічасць і нарэшце паставіць кропку ў пытанні наконт таго, ці патрэбна грамадзянам нашай краіны незалежнасць.

Мэта З'езда - прыняцце Акта Незалежнасці - дакумента, цэнтральнай ідэяй якога з'яўляецца абвяшчэнне дзяржаўнасці свяшчэннай каштоўнасцю беларускага народа. Усе захады, скіраваныя на абмежаванне ці скасаванне суверэнітэту, павінны лічыцца незаконнымі і злачыннымі. Незалежнасць Беларусі ёсць набытак не толькі цяперашняга, але і мінулых, і наступных пакаленняў, і таму ніхто не мае права распараджацца ёю паводле ўласных інтарэсаў.

Акт Незалежнасці падмацуе падмурак беларускай дзяржаўнасці, закладзены Устаўнымі граматамі Рады БНР, Дэкларацыяй аб суверэнітэце і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Спадзяемся, што ён таксама стане дадатковым чыннікам салідарызацыі ўсіх дэмакратычных грамадскіх сілаў дзеля сумеснай працы на карысць Бацькаўшчыны і паспрыяе аднаўленню законнасці ў краіне.

Першая сесія Усебеларускага З'езда склікаецца адмыслова дзеля прыняцця Акта Незалежнасці. На гэтым сходзе не будзе ні «абрання нацыянальнага лідара» ні «стварэння структураў, паралельных дзяржаўным». Усебеларускі З'езд - грамадская ініцыятыва, скіраваная выключна на абарону суверэнітэту краіны. Калі мы гарантуем захаванне дзяржавы, дык яшчэ будзем мець час і нагоду вырашыць цывілізаваным шляхам усе надзённыя палітычныя праблемы.

Мы хочам знайсці паразуменне з усімі, хто лічыць, што Беларусь павінна быць асобнай дэмакратычнай заможнай крінай. Толькі разам мы здолеем палепшыць наша сёння і дамагчыся шчаслівага заўтра для нашчадкаў. Дзеля гэтага заклікаем суайчыннікаў аб'ядноцца вакол ідэі Усебеларускага З'езда.

Жыве Беларусь!

**Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, Рыгор Барадулін,**
**Сустаршыні аргкамітэта Усебеларускага З'езда 2000 года**
**27 красавіка 2000 года**

**Кантактны тэлефон Сакратарыята Усебеларускага З'езда (017) 223-65-29**

# Як нашыя продкі далучаліся да «великого и могучего»

**Словы з трох-пяці літараў, якія мы штодня чуем з вуснаў нашых суайчыннікаў і без якіх некаторыя ўжо не могуць скласці сказаў, - гэта выдаткі далучэння нашых продкаў да суседскай мовы. Нехта казаў, што да XIX стагоддзя мацюкі не лічыліся ў расіянаў лаянкай. Радыё вяшчала, што гэтую спадчыну яны атрымалі ад мангола-татараў.**

Ці ўяўляеце Вы, шаноўны чытач, каб ужываў «моцныя выразы» беларускі летапісец? Айчыннае летапісанне не ведае такога прэцэдэнту. І адзіны магілёўскі храніст XVII-XVIII стагоддзяў, калі цытаваў нашых усходніх суседзяў, каб быць дакладным, не змог гэтага пазбегнуць.

Манахам-бернардынцам, якія ў 1706 годзе ў Оршы падышлі да Пятра І з просьбай аб міласціне, цар адказаў: «Много ли Вас?» Калі даведаўся, што іх шасцёра, сказаў: «Тьфу ты, растакая мать, Бог всю Вселенную питает, а вас шестерых не пропитает».

Менскі ксёндз запрасіў Пятра І да сябе на банкет. Той з'явіўся з немалой світай і, калі ўбачыў багацце ў ежы і дастатак у напоях, спытаў пасля абеду гасціннага гаспадара: «Много ли у тебя есть подданых?» Біскуп адказаў, што не вельмі шмат. Пётр І і кажа: «Откудова имеешь такие достатки?» А біскуп яму: «Адсюль я жыву, што адных свару, другіх - міру». На гэтыя словы цар, плюнуўшы, адказаў: «Тьфу, растакая мать, худ твой промысел. Дайте ему за обед 100 рублей». У 1655 годзе, захапіўшы Беларусь і Літву, маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч узяў у аблогу Рыгу. Немалой цаной абышлася яму гэтая аблога. Царскія ратнікі, як перадае іх словы магілёўскі летапісец, гаварылі тады: «Братцы осудари, сматрыця, гарицъ гэтая блядь Рыга, правда, её чорт выдумал».

Ці не адсюль вытокі нашага брыдкаслоўя?

**Сяргей Марозаў**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

Дачу ў раёне вёскі Навумавічы. Тэл. 76-19-29.

Мапед «Рыга-7» з запасным рухавіком. Тэл. 44-38-29.

Кухню імпартную, халадзільнік «Ока-6», усё б/у; батарэю новую (10 рэбраў). Тэл. 31-24-73.

Камп'ютар 486 Dx4-100 /24RAM/3,4HDD/512 video /CD-ROM4x/14SVGA. Кошт - 220 у.а. Тэл. 44-03-24 (аб.573).

Канапу-ложак і два крэслы-ложкі. Тэл. 76-19-29.

Музычны цэнтр «Романтика-201-стерео», прыналежнасці да акварыума, тумбачку, кампрэсар і тэрмарэгулятар, калонкі 10АС, тэлефонны апарат. Тэл. 47-00-16.

Імпартную магнітолу б/у, новы аўтамабільны ўзмацняльнік, узмацняльнік «Вега-122» б/у, пральную машыну-аўтамат «Баўкнэхт» (вытворч. Германіі). Усё танна. А таксама новы фотаапарат «Зенит», зменныя аб'ектывы, фотапавелічальнікі, асвятляльнае ды іншае абсталяванне. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Кацёл для лазні. Тэл. 6-01-59.

Раздзяляльнік паралельных тэлефонных званкоў з пераадрасоўкай званкоў, без праслухоўвання на 2,3,8 абанентаў. Тэл. у Менску (017) 253-14-47.

Кнігі па эксплуатацыі і рамонту бытавой радыё-электраапаратуры; «Фантомас» 1-6 тамы, С.Жапрызо «Убийственное лето», Р.Хайнлайн «Звёздные рэйнджеры», «Космический патруль», А.Някрасаў «Приключение капитана Врунгеля», «Ужасы»; «Как стать бизнесменом», «Что и как делать, чтобы стать предпринимателем», «Живите без проблем: секрет лёгкой жизни», «Лекарственные средства». Калі вышлеце канверт са зваротным адрасам, то атрымаеце спіс кніг і кошты на іх. Лісты буду чакаць на адрас: 231600, Гарадзенская вобласць, г.Масты, вул. Пралетарская, 35/2.

Кнігі: энцыклапедыя «Беларуская ССР» у 5-ці тамах, 1982 г.; «Энцыклапедыя прыроды Беларусі» ў 5-ці тамах, 1986 г.; энцыклапедыя «Этнаграфія Беларусі», 1982 г.; энцыклапедыя «Мир растений» у 7-мі тамах, 1977 г.; А.Брэм «Мир животных» у 3-х тамах, 1992 г.; «Живописная Россия», рэпрынтнае выданне, Менск, 1994 г.; «Советский энциклопедический словарь», Масква, 1984 г. Лісты дасылайце на адрас: 246024, г.Гомель, вул.Свярдлова, 56 (А.Копаць) ці тэлефануйце ў Гомель на нумар: 3-16-39.

Фотасветлафільтры, кружэлкі, трансфарматар 220х12В, люстру, кніжныя шафы, падпісныя выданні, карнізы. Тэл. 33-59-87.

Бульбу дробную і насенную. Танна. Тэл. 33-70-68.

## КУПЛЮ

Радыятар да BMW-525. Тэл. 31-30-62.

Каляску-двойку для двайнятаў. Тэл. 76-39-68.

Легкавы аўтамабіль (да 10 гадоў), пажадана дызель; а таксама БУС (мікрааўтобус), кошт - да 2000 у.а. Тэл. 31-30-62 (з 9.00 да 11.00).

Каляровы манітор SVGA альбо VGA. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

Факсімільнае выданьне Статуту ВКЛ 1588 году, граматыку Б.Тарашкевіча, кнігу «Летапісы і хронікі» зь серыі «Беларускі кнігазбор». Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Куплю наступныя выданні: 1) «Беларуская энцыклапедыя» т.1; 2) «Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі» т.1; 3) «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», т.4; 4) Энцыклапедычны даведнік «Беларусь». На абмен прапаную: 1) Міхась Ткачоў «Замкі і людзі»; 2) Кастусь Тарасаў «Память пра легенды»; 3) Генадзь Сагановіч «Невядомая вайна»; 4) кніжкі з серыі «Нашы славутыя землякі». Тэл. 47-24-00.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Кнігі на беларускай мове: мастацкую літаратуру (Л.Геніюш, Ул.Караткевіч, М.Гарэцкі, М.Багдановіч, А.Гарун, Цётка ды іншыя) і гістарычную літаратуру (М.Ермаловіч, М.Ткачоў, Ул.Ігнатоўскі, В.Ластоўскі, Мітрафан Доўнар-Запольскі). Тэл. (017) 258-43-54.

Кнігі па ўтрыманню ў хатніх умовах пеўчых і дэкаратыўных птушак, акварыумных рыбак, а таксама кнігі па рыбнай лоўлі. Тэл. 76-47-19.

## ПАСЛУГІ

Рэпэтытарства, кантрольныя і курсавыя работы па беларускай мове і літаратуры. Тэл. 6-67-55.

Рэпэтытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Кантрольныя і курсавыя работы, энергазабеспячэнне, энергазберажэнне. Тэл. 5-92-07 (пасля 18.30, запрасіць Васіля).

Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26.

Балгарская, беларуская мовы: пераклады, індывідуальнае навучанне. Тэл. 2-85-77.

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Відэаздымка. Якасна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Ваш лёс, юбілей, прэзентацыі. Ліц. N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Тэл. у Ваўкавыску 2-34-86.

Камп'ютарны набор, сканіраванне, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Доктар С.КАЛЯДА: інтэнсіўная псіхатэрапія АЛКАГАЛІЗМУ, ЗАЛІШНЯЙ ВАГІ. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 2004 г., МЗ РБ.

Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

Выраб сталяркі; усталяванне, зборка мэблі. Тэл. 47-87-65.

## РОЗНАЕ

Шукаю працу перакладчыка (балгарскую і польскую мовы ведаю дасканала) альбо іншую сур'ёзную працу. Тэл. 2-85-77.

Шукаю працу па абіўцы мяккай мэблі. Забяру непатрэбную старую мэблю. Тэл. 44-39-15.

Калі Вы валодаеце ангельскай мовай і маеце жаданне часова папрацаваць у прафсаюзе прадпрымальнікаў, тэлефануйце на пэйджар 73-00-00 абаненту 95200, а таксама дасылайце сваю аўтабіяграфію на адрас: 230005, Гродна-5, а/с 63.

Шукаю працу па падшыўцы і падклейванню падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

Здыму аднапакаёвую кватэру альбо адзін пакой. Тэл. 31-94-57 (запрасіць Тамару).

Шукаю працу па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

Шукаю працу на даму. Сартаванне, упакоўка. Просьба інтым не прапанаваць. Тэл. 76-39-71.

Прапануем часовую працу для студэнтаў, якія валодаюць замежнай мовай, пажадана веданне камп'ютара, заробак 20-100 у.а. Тэлефануйце на нумар: 73-00-00 (аб.95200) ці дасылайце лісты на адрас: 230005, г.Гродна-5, а/с 63, прафсаюз прадпрымальнікаў.

Здаю напракат: прыстаўку «Нота», фотаапарат, прас, кнігі. Звяртацца на адрас: 230001, г.Гродна, да запатрабавання, в/б БЕ 008703.

Патрабуецца сталяр. Тэл. 47-87-65.

Калі Вы, таксама як і я, любіце бодзібілдынг, але, мо не маеце мажлівасці ім займацца, тэлефануйце - пазнаёмімся! Тэл. 6-62-09 (запрасіць Сергея).

Маю цікавую інфармацыю пра зорак эстрады; неблагія постэры Сцінга, Э.Прэслі ды іншых. Замаўляйце і дасылайце канверт са зваротным адрасам. Мой адрас: 225889, Кобрынскі раён, в.Астромічы, да запатрабавання, прад'яўніку дакумента серыі АВ N0420164.

Ахвотныя атрымаць новы нумар газеты «Беларускі каляндар» N1(20), дашліце замову, свой дакладны адрас і 80 рублёў. У Менску газету заўжды можна набыць у сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, што па вуліцы Румянцава,13. Лісты дасылайце на адрас: 211030, г.Орша-9, п/с 46.

Выстава аўдыё-відэакнігапрадукцыі працуе па новым адрасе: г.Гродна, вул. К.Маркса, 11, 2-і паверх. Чакаем вас кожны панядзелак і сераду з 17 да 20 гадзін.

Пасведчанне інваліда ад 05.05.1998 года на імя А.А.Гарковіча лічыць несапраўдным.

Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...». Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі накont знаёмстваў належаць менавіта вам, паважаныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

## ЗНАЁМСТВЫ

Чарнявы хлопец жадае пазнаёміцца з 18-20-гадовай дзяўчынай для сустрэчаў. Пра сябе: 20/175/70. Адкажу ўсім, хто дашле мне лісты. Пажадана фота. Пішыце на адрас: Гарадзенская вобласць, Гарадзенскі раён, п/а Жыдомля, в.Абухавічы, п/с 36.

Жадаю знайсці для стварэння сям'і прыстойную жанчыну, якая мае жылплошчу. Пра сябе: мне 33 гады, рост - 165 см; жанаты не быў, па нацыянальнасці - беларус, па знаку Задыяка - Скарпіён. Чакаю лісты на адрас: 230025, г.Гродна, Галоўпаштамт, да запатрабавання, п/п IV-ДР N706368.

## ВІНШАВАННІ

Дарагая *Марыначка*! Віншуем цябе з Днём нараджэння! Жадаем табе весновага настрою, кахаць і быць каханай, заставацца заўсёды такой па-вясеннюму прыгожай і прывабнай, поспехаў у асабістым, сямейным і грамадскім жыцці, здароўя і здзяйснення жаданняў! Дзякуй табе за тое, што ты ёсць!!!

**Леванеўскія: «Я, тры сыночка и лапочка дочка» (Валерый, Антошка, Уладзімір, Дзмітрый і Каценька)**

Гарадзенская арганізацыя БХК ад усёй душы віншуе *Марыну Леванеўскую* з Днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, удачы ва ўсіх справах!

# Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Новы замак.** Авальная зала. Выстава - «Медны посуд XVIII - пачатку XX стагоддзяў». Сенатарская зала. Выстава жывапісу гарадзенскага мастака Юрыя Рацько. Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў».

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** «Гарадзенскі сейм» - зборная выстава дзесяці мастакоў. Жывапіс і скуранное пано.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Выстава «Міні прынт». Графіка, афорты. Арганізатар выставы - Юрый Якавенка.

**Галерэя «Тызенгаўз».** Выстава майстроў народнай творчасці «Вера, Надзея, Любоў».

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава вырабаў Марыі Закрэўскай.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Дзейнічае выстава, прысвечаная Францішку Багушэвічу. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек.** 5 траўня - «Снежная каралева». Пачатак спектакля ў 12.00. 6, 7 траўня - «Доктар Айбаліт». Пачатак спектакля ў 14.00.

**Гарадскі Дом культуры.** 5 траўня - канцэрт ансамбля «Нёман», прысвечаны 55-ай гадавіне Перамогі.

**Гарадскі парк.** 9 траўня - фестываль «Іграе гармонь» з удзелам ансамбля «Нёман» ды інш.

**Сярэдняя школа N32.** 9 траўня на стадыёне СШ N32 адбудзецца свята вуліцы Брыкеля. Пачатак у 18.00.

**Лядовы палац спорту.** 6 траўня - Міжнародны прафесійны турнір па кулачных баях «Чэмпіён плюс». Шоу-праграма з удзелам артыстаў эстрады. Пачатак у 19.00.

**Кафедральны касцёл (Фарны).** Да Вялікага Юбілею хрысціянства - «Музыка Сакральна».

**Палац тэкстыльшчыкаў.** 9 траўня - святочны вечар адпачынку. Пачатак у 20.00.

**Моладзевыя дыскатэкі:**

**Кінатэатр імя Пушкіна** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю).

**Кінатэатр «Усход»** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю). Штодня працуе пракат відэакасетаў, більярд, камп'ютарныя гульні.

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00 (акрамя панядзелка і аўторка). Працуе кафэбар (серада - нядзеля).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальная і стрыпцыз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.



**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

15 Імя і прозвішча ____________________

Адрас (тэлефон) ____________________

Рубрыка ____________________

Тэкст ____________________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Міс Гродна-2000

**8 траўня ў зале Гарадзенскага драмтэатра пройдзе фінальнае шоу конкурсу прыгажосці «Міс Гродна-2000».**

У фінал конкурсу выйшлі 16 прыгажуняў з болей як сотні прэтэндэнтак. Яны і стануць галоўнымі гераінямі вечарыны. Ім давядзецца спрачацца за карону «Міс Гродна»: зачароўваць журы і гледачоў дэфіле ў шыкоўных строях і амаль без іх (маецца на ўвазе выхад у купальніках), паказваць свой інтэлект і артыстызм у іншых конкурсных выпрабаваннях.

Аднак сёлета гасцей «Міс Гродна-2000» чакае шмат навінак і сюрпрызаў. Яны пачнуцца адразу пасля набыцця квітка на імпрэзу - бо замест сціплага квітка будучы глядач атрымае пакет ілюстраваных праспектаў і картку для галасавання за «Міс публіку». Дарэчы, паміж карткамі тых, хто падасць правільныя адказы, будзе разыграны турыстычны вяж у Гішпанію.

Акрамя гэтага, падчас вечарыны будзе шмат латарэяў для гледачоў, прэзентацыя прадукцыі «Цэптэр», дэгустацыя «Галіна Бланкі».

Генеральнымі спонсарамі конкурса прыгажосці «Міс Гродна-2000» выступілі турагенцтва «Сакуб-холідэй», фірма «Юмакс», акцыянернае таварыства «Дзіфа».

Сярод ганаровых гасцей вечарыны чакаюцца дырэктар Нацыянальнай школы прыгажосці Наталля Траян, дырэктар фэсту моды і фота «Супервобраз-2000» Алесь Варламаў ды іншыя.

**Алена Сіневіч**

# Лепрыконсы: «Мы, як грэкі - простыя і вясёлыя!»

**23 красавіка ў канцэртнай зале «Гродна» адбыўся канцэрт самага папулярнага на сённяшні дзень гурта айчыннай эстрады - «Лепрыконсы».**

Перад канцэртам адмыслова для ПАГОНІ музыканты адказалі на некаторыя пытанні.

***- Раскажыце, калі ласка, пра гісторыю стварэння вашага гурта.***

Ілля:

- Усё пачалося з таго, што мы наслухаліся шмат рознай музыкі. І вырашылі, што гэта тое, што мы можам рабіць на пяць балаў. Прыйшоў Федзя, потым Сундук - і мы пачалі спяваць. Ну, а вось зараз мы - пышны і прыгожы гурт. Праўда, цяпер брудныя трошкі, таму што, калі ехалі ў Гродна, вырашылі заехаць на шашлыкі. А там мяне ў вогнішча кінулі.

***- Многія артысты, якія выходзяць на расейскую эстраду з краінаў блізкага замежжа пачынаюць сваю творчую дзейнасць з песень на роднай мове. Ці не было ў вас задумы праспяваць што-небудзь на беларускай мове?***

Ілля:

- Не было. Справа ў тым, што я не люблю «паказухі». У плане таго, што ўсе мае сябры размаўляюць на расейскай мове. Мы, канешне, разумеем, што наша беларуская мова вельмі прыгожая. У нас і тэксты не асабліва зразумелыя. Паспрабуйце праспяваць што-небудзь падобнае па-беларуску ў Маскве. Ніхто нічога не зразумее. А мы стараемся быць зразумелымі для Расеі, Украіны, Карэліі і г.д.

***- Адкрыйце сакрэт назвы вашага гурта.***

Ілля:

- На гэтае пытанне адкажа Сяргей Сундук.

Сяргей:

- У Маскве сказалі, што «лепрыконсы» - гэта жаночыя калготкі. Ну, а на самой справе з грэчаскай мовы «лепрыкон» перакладаецца, як «паказ».

Ілля:

- Дык што, ты - грэк?

Сяргей:

- Не, проста грэкі - гэта такія вясёлыя «пацаны», як мы.

***- Вобраз вясёлых, бесклапотных хлопцаў - гэта толькі сцэнічны імідж ці вы на самой справе такія ў жыцці?***

Ілля:

- Не, мы вельмі сур'ёзныя. Ну гэта, канешне, жарт...

Сяргей:

- Калі б мы былі сур'ёзныя - у нас не было б такіх вясёлых песень. Мы б спявалі пра сумнае няўдалае каханне і г.д.

***- Цяпер што датычыцца вашай песні «Супер-паратрупер». Наколькі я ведаю, там ідзе размова пра атракцыён «Супер 8». А «Паратрупер» - гэта таксама атракцыён ці нешта іншае?***

Ілля:

- Так, гэта таксама атракцыён. Ведаеце, у Маскве столькі шмат розных варыянтаў каруселяў... І «Супер 8», і «Паратрупер», і чаго толькі няма!

***- Сёння вы з'яўляецеся адным з самых папулярных гуртоў. Вас усе любяць, вас усе слухаюць. Вас гэтая папулярнасць не палохае?***

Ілля:

- Ну, на самой справе, у нас яшчэ няма такой папулярнасці. Нам хочацца збіраць лядовыя палацы. Вось Лукашэнка пабудаваў у кожным горадзе палацы для таго, каб мы там выступалі. І вось, калі сёння ў нас не будзе поўнай залы - гэта не папулярнасць.

А зала была цалкам запоўненая. Апошнія рады пуставалі: усе падышлі бліжэй да сваіх куміраў. Спачатку для «разагрэву» публікі на сцэну выйшаў і праспяваў пару песень гарадзенскі гурт «Экстрым». Ну, а потым яны - тыя самыя «Лепрыконсы»! Пад шквал апладысментаў і крыкі музыканты пачалі сваю праграму пад назвай «Супер-паратрупер». Сапраўды - супер! На канцэрце можна было не толькі адпачыць і паслухаць музыку, але і пасмяяцца. «Мы приехали, чтоб детей услышать песни, как они поют» - знакамітыя рэкламны ролік музыканты перарабілі ў своеасаблівае прывітанне на канцэртах.

Падчас выканання чарговай песні ў зале згасла святло. Але гарадзенская публіка хутка знайшла выйсце з не вельмі прыемнага становішча і пачала спяваць песні далей замест «Лепрыконсаў».

Пасля канцэрта на вуліцы «Лепрыконсы» з вялікім задавальненнем давалі ўсім аўтографы, фатаграфаваліся са сваімі прыхільнікамі...

**P.S. Газета ПАГОНЯ выказвае ўдзячнасць супрацоўнікам філармоніі Г.Кірылюк і Н.Шкурко за дапамогу ў стварэнні матэрыяла.**

**Надзея Салыга**

**Пасля канцэрту Федзя (акардэон), нягледзячы на стомленасць, яшчэ доўга фатаграфаваўся са сваімі шматлікімі прыхільнікамі. Федзя, безумоўна, у цэнтры, а злева аўтар інтэрв`ю для ПАГОНІ - Надзея Салыга**

**Па гарызанталі:** 7.Беларускі паэт, якому нядаўна споўнілася 80. 8.Прыбірае, што «дрэнна ляжыць». 10.Машына для ачысткі насення. 11.Царкоўны праклён. 12.Прадпрымальніцкая дзейнасць. 14.Найвышэйшая ступень захаплення. 16.Бакавы ўчастак умацавання крэпасці. 17.Музычны інструмент баксёрскага рынга. 19.Травяністы верхні пласт глебы. 20.Тое, што ўпрыгожвае што-небудзь. 24.Еўрапейская сталіца. 25.Гора, няшчасце. 26.Порцыя сена. 30. Спарцмен на лодцы. 31.Беларускі пісьменнік родам з Дзятлаўшчыны. 32.Гатунак яблыкаў. 33.Пісьменніца, якую звалі Леся. 34.Вельмі падобныя на суніцы.

**Па вертыкалі:** 1.Вучэнне пра спадчыннае здароўе людзей. 2.Белы голуб - ... міру. 3.Палітыка навязвання сваіх умоваў слабейшаму боку. 4.Спосаб ходу каня. 5.Мірнае, шчаслівае існаванне. 6.Палявы вітамін. 9. «Чалавек - ... грамадская» (Арыстоцель). 13.Самая доўгая рака Еўразіі. 15. «Чорт яго ведае, колькі». 17.Марская жывёліна, якая не ўмее рухацца. 18.Снежная бура. 21.Беларускі кампазітар. 22.Самы неспакойны перыяд на пасецы. 23.Што чухае мужык ў задуменні? 27.Нармальная рэакцыя на ненармальныя ўмовы. 28.Герой п'есы Я.Купалы «Раскіданае гняздо». 29.Жаночае імя. 32.Водная артэрыя.

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N14:

**Па гарызанталі:** 7.Шкатулка. 8.Цемрашал. 10.Лазня. 11.Імперыя. 12.Візаві. 14.Штопар. 16.Козел. 17.Чорт. 19.Чворак. 20.Экзарх. 24.Жарт. 25.Мележ. 26.Абакан. 30.Блазан. 31.Агрэман. 32.Карэл. 33.Хірасіма. 34.Яфрэйтар.

**Па вертыкалі:** 1.Экліметр. 2.Цукерка. 3.Скаляр. 4.Цемя. 5.Эрозія. 6.Чайнворд. 9.Азярод. 13.Бейка. 15.Павет. 17.Чарга. 18.Давер. 21.Заалогія. 22.Венгры. 23.Наманган. 27.Барэтэр. 28.Чавусы. 29.Галіфэ. 32.Кума.

# Дзевяць плюс адзін

**Першыя дзевяць пытанняў з'яўляюцца своеасаблівым тэстам на ўзровень вашай эрудыцыі. Правільныя адказы на іх змешчаны ніжэй. На дзесятае пытанне конкурсу трэба адказаць пісьмова на адрас рэдакцыі (на паштоўках ці канвертах пазначыць - «9+1»). Сярод лістоў ды паштовак з правільнымі адказамі будзе праведзена лёсаванне, хкое і вызначыць, хто ж стане пераможцам і атрымае прыз ад рэдакцыі нашай газеты.**

**1. Леанарда Дзі Капрыо быў зауважаны ў «блізкім сяброўстве» з рускай мадэлькай...**
а) Наталляй Семанавай;
б) Алісай Суворавай;
в) Хрысцінай Семаноўскай.

**2. Галавач - гэта...**
а) пайднёвая расліна, суквецці якой атрутныя;
б) драпежная птушка з сямейства каршуновых;
в) грыб, ядомы ў маладым узросце.

**3. У каго (ці ў што), паводле індыйскай легенды, ператвараюцца пасля смерці душы людзей, што не плацілі свае даўгі?**
а) у шакалаў;
б) у малпаў;
в) у дзікоў.

**4. Самай доўгай у свеце ракой лічыцца...**
а) Ніл;
б) Хуанхэ;
в) Амазонка.

**5. Траваядны эдафазаўр, што жыў 280 мільёнаў гадоў таму, скарыстоўваў ветразь на сваёй спіне...**
а) для раўнавагі;
б) для абагрэву цела;
в) для абароны ад драпежнікаў.

**6. Галіцкі кароль Даніла Раманавіч заваяваў Гародню, але не здолеў замацавацца тут сваю ўладу...**
а) у 1253 годзе;
б) у 1127 годзе;
в) у 1258 годзе.

**7. Назва якога амерыканскага штата паходзіць ад алеуцкага выразу «зямля, якая не з'яўляецца востравам»?**
а) Каліфорнія;
б) Невада;
в) Аляска.

**8. Спалоханая газель анцідорка можа ўзляцець у паветра, выгінаючы спіну і злучыўшы ногі разам, пры пагрозе небяспекі на...**
а) 1 метр;
б) 3 метры;
в) 2 метры.

**9. Чалавек адчувае смак з дапамогай 3 тысяч спецыяльных органаў смаку на языку. У свінні такіх органаў 5 500, у каровы - 35 тысяч, а ў антылопы органаў смаку...**
а) 20 тысяч;
б) 40 тысяч;
в) 50 тысяч.

**Правільныя адказы:**
1в, 2в, 3б, 4а, 5б, 6в, 7в, 8б, 9в

Дзевяць правільных адказаў - выдатна, **7-8** - вельмі добра, **5-6** - добра, **3-4** - здавальняюча, **менш як 3** - у Вас ёсць над чым папрацаваць.

**10. Знатная дама XVI стагоддзя не захварэла. Аднак цэлы дзень яна правяла ў ложку. Прычына гэтаму - яе сарочка. Растлумачце, якім чынам сарочка ўхітрылася прымусіць сваю гаспадыню не выходзіць увесь дзень з хаты?**

**Адказ на дзесятае пытанне папярэдняга конкурсу (гл. ПАГОНЮ N9 ад 23 сакавіка г.г.):** далейшага вывучэння муміі не было - яе скралі ў 1950 годзе. Віншуем пераможцу конкурсу **Ц.Астаф'ева.** Дасылайце свае адказы - і вам абавязкова пашанцуе!

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Непаразуменні ў адносінах з каханым чалавекам скончацца вельмі хутка, і гэта яшчэ больш вас зблізіць.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Нарэшце вырашацца юрыдычныя праблемы, якія турбавалі Вас дагэтуль. Але надалей будзьце асцярожней!

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Магчыма, Фартуна ўсміхнецца Вам - і шмат грошай «зваліцца» на галаву, галоўнае - іх утрымаць.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Нарэшце ўрэгулюеце свае сямейныя праблемы. Фінансавыя справы пойдуць значна лепей.

♌ **Леў (23.07-23.08).** За тыдзень Вы стоміцеся, але на выхадных добра адпачнеце на возеры.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Магчымы вялікія грашовыя выдаткі, аднак праблемаў са здароўем і ў асабістым жыцці не будзе аніякіх.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Да Вас прыхільна ставіцца не толькі падначаленыя, але і ўсе астатнія. Поспех не пакіне Вас і на гэтым тыдні.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Годзе спаць у шапку! Зоркі раяць Вам павесяліцца. Шукайце нагоду.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Вас чакае прыемны падарунак ад чалавека, якога Вы вельмі добра ведаеце. Падумайце пра падзяку ў адказ.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Амурныя справы даўно не турбавалі Вас? Прыслухайцеся да свайго сэрца. Такая вясна!

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Прыгатуйцеся да прыемнай нечаканасці. Вас урадуе падарунак ад каханага чалавека.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Памятайце, што сквапнасць яшчэ нікога не ўпрыгожыла. Звярніце асаблівую ўвагу на блізкіх Вам людзей.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:**
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні.
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 1 500 Наклад 7 281
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 03.05.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Камп'ютарны набор: **Аксана Бурдзюк,**
камп'ютарная вёрстка: **Аляксей Салей**